**27 снежня – апошні дзень падпіскі на “Народную Волю” на першую палову 2017 года. Застаёмся разам, шаноўныя чытачы!**


# Народная Воля

**№ 100 (4147)**

23 снежня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Калі ў Беларусі сярэдняя зарплата за кастрычнік была 379 долараў, то ў Эстоніі – 1249, Латвіі – 945, Літве – 885, а ў Польшчы – 1043.*

*Праз колькі гадоў мы дагонім суседзяў, калі, паводле чарговых абяцанняў улад, у 2017-м беларусы змогуць разлічваць на сярэдні заробак толькі пamерам 500 долараў (у эквіваленце)?*

**БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ**



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна
для “Народнай Волі”

## Наперад, на міны?

Аляксандр Лукашэнка даў зразумець, што чарговы загад *“усім па 500”* – не жартачкі. 21 снежня ў размове з толькі што прызначанымі кадрамі сваёй Адміністрацыі – Наталляй Качанавай і Максімам Рыжанковым – ён падкрэсліў: *“Пяцьсот долараў налета сярэдні заробак. Пры ўсіх цяжкасцях, чаго б гэта ні каштавала. Скрадзіце, адкапайце, знайдзіце, што заўгодна. Але пяцьсот долараў мусіць быць выканана”.*

Зразумела, фармулёўка “скрадзіце, адкапайце” мае адценне іранічнай метафары. Але дэ-факта яна сведчыць пра тое, што прэзідэнт, мабыць, сам толкам не ведае, як дамагчыся сакральнай мэты. Пастаноўка задачы – чыста валюнтарысцкая: хоць у блін разбіцеся, а забяспечце вынік.

У блін вертыкаль разбівацца не стане, а, мяркую, пойдзе ўжо вядомым заганным шляхам. Давядзецца змякчыць грашова-крэдытную палітыку – працей кажучы, надрукаваць багата-багата новенькіх купюр. Бо іншыя, эканамічна абгрунтаваныя, шляхі істотнага павышэння заробкаў у сённяшніх беларускіх умовах нерэальныя. На добры лад рост заробкаў мусіць ісці следам за апераджальным ростам прадукцыйнасці працы. Інакш кажучы, каб сягнуць ад цяперашніх прыблізна 370 долараў да 500, трэба за год узняць тую прадукцыйнасць на трэць з гакам. Але ж афіцыйны прагноз (адпаведны ўказ падпісаў сам Лукашэнка) прадугледжвае рост гэтага паказчыка ў 2017 годзе толькі на 1,8%. Адкуль што возьмецца?

Глядзіце: эканоміка ў рэцэсіі, налета незалежныя эканамісты і аўтарытэтныя міжнародныя інстытуцыі кшталту МВФ, Сусветнага банка прагназуюць далейшае скарачэнне валавога ўнутранага прадукту. А гэта азначае, што і прыкметнага росту прадукцыйнасці працы не дасягнеш, калі не рэзаць бязбожна штаты прадпрыемстваў. Аднак жа ілюзія амаль што поўнай занятасці – яшчэ адна свяшчэнная карова беларускага рэжыму. Хай сабе рабацягі “забіваюць казла” ў халодным цэху, сядзяць у неаплатных адпачынках, але звальняць – ні-ні. Улада баіцца бунту тых, хто апынецца па-за бортам. Ствараць жа новыя працоўныя месцы – на гэта бракуе інвестыцый ды мазгоў.

Вось і застаецца адзінае выйсце – уключыць друкарскі станок. Такое ўжо рабілася перад прэзідэнцкімі выбарамі 2010 года і скончылася дзвюма абвальнымі дэвальвацыямі ў 2011-м, рубель у выніку выпетраў амаль што ўтрая. Другі раз пад шчоўканне прэзідэнцкай пугі далі “ўсім па 500” напрыканцы 2012 года. Але праз два гады грымнула “Чорная пятніца”, беларусаў напаткала гібрыдная (замаскіраваная спачатку пад 30-працэнтны збор пры куплі валюты) дэвальвацыя. А потым схуднелыя заробкі яшчэ і замарозілі праз крызіс.

Дык нашто Лукашэнка зноў дзейнічае паводле прынцыпу “наперад, на міны”? Злыя языкі кажуць, што ён трымае ў галаве рэферэндум пра падаўжэнне тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў з пяці да сямі гадоў. У такім разе важна пракруціць яго адразу пасля напампоўкі эканомікі пустымі грашыма, пакуль яна не ляснулася. Спачатку наіўны электарат задаволена пахрабусціць новенькімі купюрамі, а потым ужо будзе чухаць рэпу ля цэннікаў у крамах (бо непазбежна скокне інфляцыя).

Зрэшты, той рэферэндум яшчэ віламі па вадзе пісаны. Што пяць, што сем гадоў кадэнцыі – неістотна, калі ўсё схоплена, механізм “элегантных перамог” адпрацаваны. Таму не выключаю, што афіцыйны кіраўнік проста хоча вылечыць уласную псіхатраўму ад таго, што ягоная місія цудатворцы дае прыкрыя збоі. Як жа так: быць, паводле ліслівага выразу аднаго вертыкальшчыка, трохі вышэйшым за бога – і не даць свайму народу хоць палову польскага заробку (у нашых заходніх суседзяў ён за тысячу долараў)?

Замест таго каб ладзіць даўно параспелыя рэформы, беларускі кіраўнік жыве спадзевамі на цуды: а раптам нафта падаражэе, ці ў нас радовішчы знойдуцца, і мы тут зробім Эміраты, ці Масква з МВФам паралельна раскашэляцца – карацей, нешта такое здарыцца, і тады мо чарговы авантурны эксперымент над эканомікай абыдзецца без абвалу.

Нязменнаму і незмяняльнаму прэзідэнту сапраўды не раз шалёна шанцавала. Але сёння створаная ім сацыяльна-эканамічная мадэль відавочна вычарпала рэсурс, а знешнія спонсары і крэдытары як ніколі строгія. Таму чарговы раз пастаўленая задача “ўсім па 500” абяцае беларусам падарунак, які вылезе бокам.

**КАДРЫ**

## Пальцам у неба

Так, у чарговы раз нашы аналітыкі, палітолагі ткнулі пальцам у неба. Хто толькі не пісаў і не гаварыў, што Аляксандр Лукашэнка верне з Масквы былога прэм’ер-міністра Сяргея Сідорскага і пасадзіць яго ў крэсла кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Хтоніхто рабіў стаўку на Валерыя Міцкевіча, які пару тыдняў выконваў абавязкі кіраўніка Адміністрацыі.

Нельга прыгадаць і хоць бы аднаго аналітыка ці палітолага, які раней выказваў бы прагноз, што галоўны прэзідэнцкі штаб узначаліць **Наталля Качанава.** Здаецца, яна толькі-толькі пераехала з Наваполацка ў Мінск, не паспела асвоіцца на пасадзе віцэ-прэм’ера па сацыяльных пытаннях і тут – глава Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Вось дык узлёт! Чаму А.Лукашэнка прыняў такое, на здзіўленне ўсім, рашэнне – толькі яму аднаму вядома.

Тое ж самае можна сказаць і пра прызначэнне на пасаду першага намесніка кіраўніка Адміністрацыі **Максіма Рыжанкова.** Быў памочнікам прэзідэнта, курыраваў спорт, а чым цяпер будзе займацца – пакуль не сказана.

Як бачым, адбываецца самы сапраўдны кадратрус. Толькі вось пытанне: новыя прызначэнцы стануць у верхнім эшалоне ўлады прафесійнымі менеджарамі, выпрацоўшчыкамі новых падыходаў у кіраўніцтве краіны ці чарговымі і сляпымі выканаўцамі волі аднаго чалавека – Аляксандра Лукашэнкі?

**Сцяпан КУЛЬБІЦКІ.**

**САЛІДАРНАСЦЬ**

## «Каб быў альтэрнатыўны пункт погляду...»

*У Мінску распачаўся марафон-флэшмоб «Здымі відэа для «Белсата».*




*«Лёс тэлеканала яшчэ не вырашаны канчаткова. Кожны з вас можа дапамагчы захаваць яго: зняць відэазварот, апублікаваць на сваім профілі ў сацыяльных сетках,* – прапанавалі арганізатары флэшмобу. – *Скажы на камеру, чаму ты асабіста лічыш, што трэба захаваць «Белсат», і запрасі іншых падпісаць петыцыю да прэзідэнта Польшчы Анджэя Дуды”.*

На акцыю, якая праходзіла ля Музея Максіма Багдановіча ў Траецкім прадмесці, прыйшлі каля 20 чалавек – палітыкі, літаратары, праваабаронцы, журналісты. Дарэчы, за мерапрыемствам традыцыйна ўважліва сачылі сілавікі ў цывільным. І не толькі сачылі, але і дакументавалі ўсё на камеры.

– Тэлеканал “Белсат” прадстаўляеце? – з жартам запытаўся ў аднаго такога “аператара” **Павел Севярынец.**

– “Голас Амерыкі”, – пажартаваў у адказ міліцыянер.

Што тычыцца прысутных, то ўсе выказваліся за захаванне “Белсата”.

*“Калі знікне “Белсат”, то свабоднай інфармацыі будзе значна менш. У нашых інтарэсах, каб Беларусь развівалася як незалежная краіна, каб беларусы мелі альтэрнатыўны пункт погляду”,* – сказаў кіраўнік руху “За свабоду” **Юрась Губарэвіч.**

*“Хочацца спадзявацца, што здаровы сэнс пераможа, і тэлеканал працягне сваю працу,* – дадаў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў **Барыс Пятровіч**. – *Ён заняў сваю нішу. Цалкам выходзіць на беларускай мове, мае шмат асветніцкіх перадач. Але “Белсат” важны яшчэ і таму, што дае трыбуну літаратарам, мастакам і музыкантам, якія не дапушчаны на дзяржаўнае тэлебачанне. І гэта місія – вельмі важная”.*

*«Я звяртаюся да ўсіх з заклікам падпісаць петыцыю ў абарону «Белсата», каб адзіны незалежны беларускамоўны канал працягваў функцыянаванне»,* – прыйшла выказаць словы падтрымкі каналу і дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Алена Анісім.**

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



http://catholic.by

## Жыццё – гэта самы вялікі і каштоўны Божы дар

*(З Пастырскага паслання арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча на Божае Нараджэнне 2016)*

Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, браты і сёстры, людзі добрай волі!

Сардэчна вітаю вас усіх гэтым святочным воклічам і віншую з радасным і поўным духоўнага зместу святам Божага Нараджэння, калі мы адзначаем таямніцу Уцелаўлення Сына Божага!

У нашым жыцці мы заўсёды чагосьці жадаем і да чагосьці імкнёмся. Найчасцей хочам быць багатымі, славутымі, папулярнымі. Гэта натуральна, бо чалавек імкнецца да лепшага жыцця і хоча ўдасканальвацца. Аднак мы добра ведаем, што спаўненне ўсіх гэтых жаданняў не можа нас задаволіць да канца, аб чым сведчыць штодзённае жыццё.

Таму нашым самым запаветным жаданнем павінна быць імкненне дасягнуць таго, што будзе працягвацца вечна. У гэтым мы адрозніваемся ад іншых стварэнняў. Каб быць сапраўды шчаслівым, чалавек павінен жадаць вечнага Бога. Не супакоіцца маё сэрца, пакуль не спачне ў табе, Божа, кажа Св. Аўгусцін.

Нярэдка можна пачуць, што Божы закон абмяжоўвае свабоду чалавека. Аднак ніхто не кажа, што дарожныя знакі абмяжоўваюць свабоду вадзіцеля. Яны патрэбны для таго, каб бяспечна весці аўтамабіль і даехаць да мэты нашага падарожжа. Падобна і Божы закон дадзены не для абмяжоўвання свабоды чалавека, але для яго дабра, каб ён мог бяспечна дайсці да мэты свайго зямнога падарожжа ў шчаслівую вечнасць.

Адным з найбольш хвалюючых з’яўляецца крызіс сям’і як галоўнай клеткі кожнага грамадства. Разводы становяцца нормай, якая вядзе не толькі да асабістай трагедыі мужчыны і жанчыны, але і дзяцей, якія застаюцца сіротамі пры жывых бацьках.

Змяняецца само паняцце сям’і як Богам устаноўленага адзінага і непарушнага саюза мужчыны і жанчыны з мэтай сумеснага жыцця і дапамогі адно аднаму, нараджэння патомства і яго выхавання. Замест гэтага заканадаўства паловы краін Еўрасаюза ўжо легалізавала гомасексуальныя сужэнствы і пры гэтым з правам усынаўлення. Дзіцяці патрэбны бацька і маці. Хто ў такім выпадку іх замяніць? Хто ахіне ўсыноўленых дзяцей матчынай ласкай? Хто ў іх выхаванні заменіць патрабуючую любоў бацькі?

Самы вялікі Божы дар, якім з’яўляецца дар жыцця, дэвальвуецца. Яно становіцца таварам, які можна набыць і прадаць. Выкарыстоўваючы самыя новыя дасягненні генетыкі, ім можна маніпуляваць. Распаўсюджваецца практыка абортаў, што з’яўляецца забіццём ненароджанага жыцця. Аборт вядзе да пагаршэння дэмаграфічнай сітуацыі з яго наступствамі, у тым ліку да міграцыйнага працэсу, які ў Заходняй Еўропе перарадзіўся ў вялікі крызіс. З аднаго боку, міграцыя выклікана сітуацыяй у Сірыі, на Блізкім Усходзе і ў некаторых краінах Азіі. Але з іншага – Еўропа патрабуе гэтай міграцыі. Гэта наступства дэмаграфічнага крызісу: Стары кантынент старэе і патрабуе новых рук для працы. Еўропа, паводле слоў Папы Францішка, стала няплоднай бабуляй з усімі выцякаючымі з гэтага наступствамі.

Стары кантынент перажывае працэс дэмаграфічнага самагубства, выйсця з якога не гарантуюць ні палітычныя, ні эканамічныя рашэнні, бо гэта праблема сэрца, праблема духоўнага стану грамадства.

Касцёл цвёрда стаіць на прынцыпах абароны жыцця і таму ў сваім вучэнні выказваецца за забарону смяротнага пакарання. Жыццё – гэта самы вялікі і каштоўны Божы дар. Бог даў, і ніхто не мае права яго адабраць. Вядома, што кожнае злачынства, асабліва забойства, – гэта зло, бо ніхто не верне жыцця. Аднак у наш час існуе дастаткова метадаў абясшкодзіць злачынца так, каб ён нікому не мог прычыніць зла і адбываў пажыццёвае зняволенне. Устрыманне ад смяротнай кары адпавядае годнасці чалавечай асобы, умовам агульнага дабра і з’яўляецца выражэннем павагі да права кожнага чалавека на жыццё.

Мэтай адмены смяротнага пакарання з’яўляецца абарона чалавечай годнасці, на якую мае права таксама і забойца, як вучыць Св. Ян Павел II. Трэба памятаць і пра тое, што існуе магчымасць судовай памылкі, якую пасля выканання смяротнага пакарання немагчыма выправіць.

Паводле меркавання Папы Францішка, смяротнае пакаранне абсалютна не прымальна. Яно зневажае непарушнасць жыцця і годнасці чалавечай асобы, супярэчыць Божаму плану адносна канкрэтных людзей і Ягонай міласэрнасці.

...Віншую хрысціян іншых канфесій, якія сёння святкуюць з намі Божае Нараджэнне! Са словамі сардэчнага прывітання і найлепшых пажаданняў звяртаюся да праваслаўных братоў і сясцёр, якія перажываюць Адвент. Віншую ўсіх людзей добрай волі! Каляды належаць усяму свету, бо Сын Божы стаўся чалавекам дзеля збаўлення ўсіх людзей.

**«КРУГЛЫЙ СТОЛ»**

## Цены на лекарства поддаются лечению?

*Сегодня белорусы, возвращаясь из заграничных поездок, зачастую везут с собой лекарства. Многие импортные препараты стоят там дешевле, чем у нас. Разница в цене доходит до 50, 70 процентов, а иногда одни и те же таблетки в одной и той же дозировке в Польше, России или Украине стоят в 2, а то и в 3 раза дешевле, чем в Беларуси.*



*Почему? Как формируются цены на лекарственные средства в Беларуси? Адекватны ли в целом цены на импортные препараты в аптеках страны? Что государство делает для того, чтобы таблетки и микстуры оставались доступными для населения?*

*По инициативе Министерства здравоохранения прошел «круглый стол», на котором специалисты фармацевтической отрасли вместе с журналистом «Народной Воли» обсудили ситуацию с ценами в аптеках страны. Данное мероприятие было инициировано Минздравом после ряда публикаций в «Народной Воле», в которых мы поднимали проблему высоких цен на лекарства.*


***(Материалы "круглого стола" читайте на 3-й стр.)***

ШАВІНІЗМ!

Леанід РАШЭТНІКАЎ,
дырэктар Расійскага інстытута стратэгічных даследаванняў:

# «Беларуская мова была створана ў 1926 годзе на пасяджэнні аргбюро ЦК ВКП(б)»

Якая толькі брыдоціна не нясецца ў апошні час з Белакаменнай на беларусаў! І на гэты перл можна было б не звяртаць увагі, калі б Л.Рашэтнікаў не забяспечваў аналітыкай адміністрацыю Пуціна. Бачыце, які дыягназ ён выставіў нашай краіне: *"У Беларусі ўсё рухаецца паводле ўкраінскага сцэнарыя"*.

І далей: *«Працэсы вельмі падобныя. І, на жаль, не бачым працэсаў, якія б ім супрацьстаялі. Лінія на аддзяленне беларусаў ад расійцаў, стварэнне плоту паміж беларусамі і расійцамі ў ідэалагічным, гістарычным, ідэйным і духоўным плане відавочная»*.

Спадар Рашэтнікаў дагаварыўся да таго, што *«беларуская мова была створана пастановай пасяджэння аргбюро ЦК ВКП(б)»*. Як быццам у 1926 годзе так пісала бальшавіцкая "Праўда".

*«Гэтая бомба, закладзеная тады, цяпер ірванула. Атрымліваецца, што мы спрычыніліся да стварэння беларускай мовы. І беларускай мове цяпер толькі 90 гадоў»*.

Вось так, нашай роднай мове толькі 90 гадоў. Да гэтага на ёй не пісаў ні Колас, ні Купала, ні Багушэвіч, ні…

Шавіністычны сверб Л.Рашэтнікава наогул не мае межаў. Яго выснова: *"Нельга забываць пра Беларусь. Гэта гістарычная частка вялікай Расіі, частка нашага народа"*.

І нарэшце: *"Якая ж Беларусь незалежная ад Масквы і як гэта Масква ёй нічога дыктаваць не можа?»*

Так, паводле сцвярджэння Рашэтнікава, Беларусь не можа быць незалежнай, яна можа быць толькі калоніяй Масквы, якая і павінна дыктаваць ёй сваю волю.

Што і казаць, звар'яцелі расійскія шавіністы!

ВОДПАВЕДЗЬ

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ:

# «Беларуская мова існавала з часоў «Слова пра паход Ігара»

*– Леанід Рашэтнікаў сваімі словамі прадэманстраваў неадукаванасць, бо беларускую мову выкарыстоўваў яшчэ ананімны аўтар «Слова пра паход Ігара» і Францішак Скарына, якія выдаў Біблію з прадмовамі па-беларуску.*

*Леанід Рашэтнікаў, які ачольвае нібыта паважаную інстанцыю, – самы сапраўдны невук. Таму што як мінімум беларуская мова ўзнікла ў кнігах Скарыны, а яшчэ раней яна ўзнікла ў Тураве. Калі б Рашэтнікаў не быў невукам, то прачытаў бы «Слова пра паход Ігара» – паэму, напісаную ў Тураве напрыканцы XII стагоддзя, якая змяшчае 70% беларускіх лексем, якіх сучасны расіец не зразумее.*

Адказваючы на пытанне Радыё Свабода Някляеў сказаў, што такія інфармацыйныя закіды з боку дырэктара Расійскага інстытута стратэгічных даследаванняў сведчаць, што расійскі шавінізм у дачыненні да Беларусі становіцца навуковай і прафесарскай пазіцыяй:

*– Гэта шавіністычная пыха, вялікадзяржаўны расійскі шавінізм. Ён праяўляецца паступова: ад нікому не вядомых журналістаў на "Рэгнуме" да ўплывовых дзяржаўных службоўцаў. Такім чынам з маргінальнай пазіцыі гэтая думка становіцца прафесарскай і навуковай. Але гэта ўсё звёны аднаго і таго ж ланцуга, які называецца "імперскі расійскі шавінізм", які не хоча прызнаваць, што ёсць краіна Беларусь, беларускі народ і беларуская мова.*

АФІЦЫЙНА

# МЗС Беларусі заявіла Расіі пратэст

22 снежня ў наша Міністэрства замежных спраў быў выкліканы дарадца-пасланнік Пасольства Расіі ў Беларусі Вадзім Гусеў.

Расійскаму дыпламату быў заяўлены пратэст у сувязі з выказваннямі дырэктара Федэральнай дзяржаўнай навуковай бюджэтнай установы «Расійскі інстытут стратэгічных даследаванняў» Л.П.Рашэтнікава на адрас Рэспублікі Беларусь.

**«Беларускім бокам была дадзена прынцыповая ацэнка ў дачыненні да неабгрунтаванасці па сутнасці і катэгарычнай непрымальнасці па форме падобных заяў. Падкрэслена, што яны абсалютна не адпавядаюць стратэгічнаму характару беларуска-расійскіх адносін, а таксама зафіксаваным у двух- і шматбаковых дакументах прынцыпам, на якіх грунтуецца супрацоўніцтва нашых брацкіх дзяржаў, – павагі суверэнітэту, незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці»,** – гаворыцца ў інфармацыі, распаўсюджанай прэс-службай МЗС.

НАША ЖЫЦЦЁ

# Жыроўка тыповай двухпакаёўкі падаражэе на 10 рублёў 98 капеек

*Савет міністраў пастановай ад 16 снежня 2016 года №1035 зацвердзіў тарыфы на некаторыя віды жыллёва-камунальных паслуг на 2017 год.*

Згодна з дакументам, кошт цеплаэнергіі будзе павялічаны на 17 працэнтаў да 15,6098 бел. рублёў за 1 Гкал. На аналагічны працэнт вырасце для насельніцтва цана на газ прыродны ў ацяпляльны перыяд. Кошт электраэнергіі не павялічыцца. Але што тычыцца электраэнергіі на работу ліфтаў, то тарыф павялічыцца да 0,47 рубля з аднаго жыхара (цяпер 0,26).

*«Плацяжы насельніцтва, разлічаныя па субсідзіруемых дзяржавай тарыфах (цэнах), гранічныя памеры расходаў і памеры кампенсацыі жыллёва-камунальных паслуг насельніцтвам, прадугледжаныя пастановай, будуць павышаны ў памеры, эквівалентным 5 доларам у разліку на сям'ю з трох чалавек, якая жыве ў двухпакаёвай кватэры агульнай плошчай 48 кв.м, пры нарматыўным спажыванні жыллёва-камунальных паслуг»*, – растлумачылі ў Міністэрстве антыманапольнага рэгулявання і гандлю. Так, пры павелічэнні тарыфаў разліковыя плацяжы сям'і з трох чалавек, якая пражывае ў тыпавой двухпакаёвай кватэры, пры нарматыўным спажыванні паслуг (па асноўных і дадатковых паслугах) узрастуць на 10,98 рубля і складуць у ацяпляльны перыяд 79 рублёў 38 капеек.

| Тарыф | Будзе | Ёсць зараз |
|---|---|---|
| Водазабеспячэнне | Не больш за 0,5301 бел. руб. за 1 куб.м | 0,2790 бел. руб. за 1 куб.м |
| Водаадвядзенне (каналізацыя) | Не больш за 0,354 бел. руб. за 1 куб.м | 0,1863 бел. руб. за 1 куб.м |
| Тэхнічнае абслугоўванне жылога дома | Не больш за 0,1 бел. руб. за 1 кв.м агульнай плошчы жылога памяшкання ў месяц | 0,0995 бел. руб. за 1 кв.м агульнай плошчы жылога памяшкання ў месяц |
| Тэхнічнае абслугоўванне ліфта | Не больш за 1,19 бел. руб. з аднаго жыхара ў месяц | 0,6911 бел. руб. з аднаго жыхара ў месяц |

Міністэрству антыманапольнага рэгулявання і гандлю даручана ўзгадніць з аблвыканкамамі і Мінгарвыканкамам субсідзіруемыя дзяржавай тарыфы.

Што тычыцца тарыфаў на водазабеспячэнне, водаадвядзенне (каналізацыю), тэхнічнае абслугоўванне жылога дома, якія забяспечваюць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат, то яны застануцца на цяперашнім узроўні. Тарыф на тэхнічнае абслугоўванне ліфта складзе не больш за 1 рубель 33 капейкі з аднаго жыхара ў месяц (у бягучым годзе – 1,2 рубля).

Аплачваць жыроўку па новых тарыфах (цэнах) насельніцтва пачне ў лютым 2017 года за жыллёва-камунальныя паслугі, аказаныя ў студзені.

ПАДЗЕЯ

# У Лондане адкрылася беларуская царква

Некалькі дзён таму ў Лондане была асвечана беларуская ўніяцкая царква – першая адмыслова пабудаваная ў замежжы. Цікава, што ўзведзена яна цалкам з дрэва, у той час як ад 1666 года ў Лондане не было будынкаў сакральнага прызначэння ў такім традыцыйным для Беларусі матэрыяле. Тым не менш беларуская царква – прыклад высокатэхналагічнага праекта. Брытанскі архітэктар будынка правёў шмат часу ў палявых даследаваннях у нашай краіне, каб зафіксаваць ацалелыя прыклады аўтэнтычнай драўлянай архітэктуры. Паводле гэтых узораў ён і спраектаваў царкву ў Лондане.



Больш за сотню беларусаў і замежнікаў бралі ўдзел ва ўрачыстасцях з нагоды асвячэння першай беларускай уніяцкай царквы ў замежжы ў мінулую суботу. "Гэта надзвычай важная падзея для беларускай грамады ў Брытаніі. Мы спадзяёмся, што гэта царква аб'яднае ўсіх беларусаў замежжа", – заявіў кіраўнік Беларускай каталіцкай місіі і ініцыятар узвядзення царквы айцец Сяргей Стасевіч.

Пасля літургіі, якая пазначыла пачатак дзейнасці царквы, выступіла дырэктар дабрачыннага чарнобыльскага фонду "Сакавік" Марыя Міцкевіч, унучка Якуба Коласа і Янкі Маўра. На ўрачыстасцях прысутнічалі супрацоўнікі беларускай і ўкраінскай амбасад у Лондане, прадстаўнікі Ватыкана, іншых хрысціянскіх канфесій, а таксама беларусы з розных куткоў свету.

**Вікторыя ДРОЗД.**

ЧУЛІ?

# Дванаццаты…

Як паведамлялася, начальнікам Службы бяспекі прэзідэнта Беларусі прызначаны **Андрэй Паўлючэнка,** які дагэтуль працаваў на пасадзе начальніка ўпраўлення Службы бяспекі прэзідэнта.




А.Паўлючэнка – дванаццаты кіраўнік Службы бяспекі прэзідэнта за 22 гады кіравання Аляксандра Лукашэнкі.

Раней гэтую пасаду займалі **Вячаслаў Каралёў**, **Юрый Бародзіч**, **Уладзімір Кужанаў**, **Уладзімір Навумаў**, **Леанід Ерын**, **Генадзь Нявыглас**, **Уладзімір Клімаў**, **Яўген Дзвярніцкі**, **Юрый Жадобін**, **Андрэй Уцюрын, Віктар Шынкевіч**.

НУ І НУ!

# Жаба задушыла…

*Сталічныя ўлады на пяць дзён зрабілі для людзей сталага веку бясплатны праезд у метро, а таксама на асобных маршрутах трамвая і аўтобуса, але чамусьці пастараліся схаваць гэты сюрпрыз.*

На гэтым тыдні ў «Народную Волю» звярнуўся чытач газеты і распавёў такую гісторыю:

*"Жонка прыехала з горада дадому і кажа, што з 20 па 24 снежня праезд у метро для пенсіянераў бясплатны. Але асабіста я не чуў пра гэта ні па радыё, ні па тэлебачанні, хаця пастаянна слухаю апошнія навіны. У гарадскім транспарце таксама ніякіх аб'яў з гэтай нагоды не робіцца. Атрымліваецца, што, з аднаго боку, пенсіянерам зрабілі падарунак, а з другога – тых жа транспартнікаў, што называецца, "жаба душыць". Не хочуць губляць прыбытак, а таму для іх, напэўна, лепш, каб пра бясплатны праезд ведала як мага менш людзей"*.

Як аказалася, ільготу на права бясплатнага праезду ў метро, трамвайных маршрутах №№3, 6, 11 і аўтобусных №№19, 100 маюць пенсіянеры з 20 па 24 снежня (уключна) у сувязі з тым, што ў гэты час у Палацы мастацтва на вуліцы Казлова, 3 праходзіць выстава "50 плюс".

На сайце Мінгарвыканкама гаворыцца, што наведвальнікі выставы атрымаюць кансультацыі юрыстаў, псіхолагаў тэрытарыяльных цэнтраў сацыяльнага абслугоўвання, урачоў, але пра бясплатны праезд – ні слова.

На наступны дзень пасля таго, як ільготы пачалі дзейнічаць, вырашыў даведацца, ці ёсць інфармацыя пра гэта ў метрапалітэне. Нуль!

У касах, дзе прадаюць жэтоны і праязныя, толькі паціскалі плячыма: "У супрацоўнікаў метро ўдакладняйце, мы да іх не адносімся".

На станцыі метро "Малінаўка" супрацоўніца метрапалітэна распавяла, што і сама толькі даведалася пра гэтае новаўвядзенне, калі прыйшла на працу. *"Ніхто папярэдне нас не інструктаваў"*, – дадала яна.

Тая ж самая сітуацыя была і на станцыі метро "Кастрычніцкая", і на "Купалаўскай"…

*"Мы не ведаем, чаму не інфармуюць пенсіянераў, што ў іх у гэтыя дні бясплатны праезд"*, – шчыра прызналіся супрацоўнікі метро.

*"Першы раз чуем пра бясплатны праезд"*, – здзіўляліся людзі пенсіённага ўзросту на вуліцы і шчыра дзякавалі за інфармацыю.

Цікава, што льгота дзейнічае толькі ў тым выпадку, калі чалавек пакажа пенсіённае пасведчанне. Але ж калі не ведаць пра яе, то і пасведчанне не кожны возьме з сабой.

Я патэлефанаў на "гарачую лінію" Мінскага метрапалітэна, і вось што распавёў яго супрацоўнік:

– Ёсць працоўны план па правядзенні 6-й сацыяльнай выставы для людзей сталага веку "50 плюс". У адпаведнасці з гэтым планам і зрабілі бясплатны праезд пенсіянерам на перыяд правядзення выставы.

**– А чаму інфармацыі з гэтай нагоды ў метрапалітэне зусім няма? Маглі хаця б аб'явы павесіць ля кас… Чаму не робяць абвесткі ў цягніках?**

– Мы займаемся перавозкамі, а не іфармацыйным забеспячэннем. І робім тое, што нам сказалі.

На сайце Мінскага метрапалітэна не адразу, але з'явілася інфармацыя пра бясплатны праезд, а вось на сайце ДП "Мінсктранс" нічога няма.

*"Што тычыцца інфармавання насельніцтва, то пытанні не да нас, бо гэта не наш працоўны план,* – кажа памочніца генеральнага дырэктара ДП "Мінсктранс" **Зоя Лабатая**. – *Мы сваю працу робім – прадастаўляем грамадзянам права бясплатнага праезду. Але калі казаць, напрыклад, пра агучванне ў транспарце ці іншае інфармаванне, то такога даручэння нам не было"*.

Адным словам, гарадскія ўлады быццам перад святамі зрабілі добрую справу, а з іншага боку, невялікі асадачак у людзей усё роўна застаецца. Больш адкрытымі і шчырымі трэба быць, таварышы!

**Алесь СІВЫ.**

КУХНЯ

# Бузоўскага заменяць Рыжанкоў і Эйсмант

Апошнія кадравыя перастаноўкі, мяркуючы па ўсім, далі старт рэформе ўнутры Адміністрацыі прэзідэнта. Пра яе кіраўнік краіны спачатку загаварыў: *"Лічу, што нам трэба скараціць адну з пасад намесніка (хутчэй за ўсё, гэта намеснік кіраўніка Адміністрацыі па ідэалогіі), істотна перабудаваўшы ідэалагічны напрамак, замацаваўшы яго за першым намеснікам"*. А праз дзень з'явіўся ўказ аб вызваленні ад пасады намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта па ідэалогіі **Ігара Бузоўскага** *«ў сувязі з пераходам на іншую працу»*. Дадзеная пасада ліквідавана.

Такім чынам, зараз у новага кіраўніка прэзідэнцкай Адміністрацыі **Наталлі Качанавай** тры намеснікі: **Максім Рыжанкоў** (першы намеснік), **Валерый Міцкевіч** (адказвае за юрыдычную сферу) і **Мікалай Снапкоў** (адказвае за эканоміку).

Але распачатая рэформа не азначае, што ідэалогіі ў нашай дзяржаве будзе надавацца менш увагі. *"Перад новым кіраўніцтвам прэзідэнт паставіў задачу падрыхтаваць план рэфармавання Адміністрацыі. Пры гэтым абсалютна дакладна, што асноўныя напрамкі дзейнасці за Адміністрацыяй застануцца. Гэта ідэалогія, кадравыя шматлікія арганізацыйныя пытанні, падрыхтоўка выступленняў прэзідэнта"*, – такую заўвагу пасля гучных кадравых прызначэнняў зрабіла прэс-сакратар Лукашэнкі **Наталля Эйсмант**. Дарэчы, паміж ёю і Рыжанковым Аляксандр Лукашэнка прапанаваў падзяліць функцыі Бузоўскага.

Трэба адзначыць, што ў адрозненне ад амаль "прафесіянальнага ідэолага" Бузоўскага (а яго працоўны шлях пачынаўся з пасады памочніка сакратара ЦК Беларускага патрыятычнага саюза моладзі напрыканцы 1990-х, потым была праца ў маладзёжным цэнтры «Юнацтва», у юнацкім хакейным клубе «Залатая шайба», на БТ, і нарэшце ў 2003-м Бузоўскі апынуўся ў новастворанным БРСМ, які ўзначаліў у 2010 годзе), у Рыжанкова і Эйсмант такога досведу няма. Максім Рыжанкоў да прызначэння ў Адміністрацыю прэзідэнта працаваў у дыпламатычнай сферы, быў памочнікам прэзідэнта па пытаннях спорту і віцэ-прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта. Наталля Эйсмант да таго, як стаць у лістападзе 2014 года прэс-сакратарам А.Лукашэнкі, працавала ў Тэатры музкамедыі і вядучай на БТ.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

СТАЛА ВЯДОМА...

# «Беларусбанк»: пературбацыя ў кіраўніцтве

У гэтыя дні адбылося яшчэ адно кадравае прызначэнне, праўда, не ў вышэйшых эшалонах улады. Прызначаны выканаўца абавязкаў старшыні праўлення "Беларусбанка". Ім стаў **Аляксандр Паліўка**, намеснік старшыні праўлення гэтага банка. Такое рашэнне прыняў Назіральны савет ААТ "АСБ Беларусбанк".

Як вядома, былы старшыня праўлення банка **Сяргей Пісарык** быў вызвалены ад пасады "па пагадненні бакоў". Канкрэтныя прычыны звальнення не разгалошваюцца. Вядома, што восенню з Пісарыкам працягнулі кантракт на пяць гадоў. А летам былі затрыманы два топ-менеджары "Беларусбанка": выконваючы дырэктар Анатолій Багавік і першы намеснік старшыні праўлення Генадзь Гаспадарык.

Прэс-служба "Беларусбанка" адзначае, што "змена ў кіраўніцтве не паўплывае на дзейнасць банка і выкананне ім усіх планаў і абавязацельстваў".

ЗА ПРАХАДНОЙ

# На «Нафтане» выплацілі 13-ы заробак за 2015 год

*Але толькі часткова.*

Інфармацыя аб тым, што калектыў адкрытага акцыянернага таварыства «Нафтан» можа застацца без «трынаццатага заробку» за… 2015 год і матэрыяльнай дапамогі да навагодніх святаў, з'явілася на пачатку снежня.

– *У апошні час наша прадпрыемства працуе эканамічна неэфектыўна,* – сказаў генеральны дырэктар завода **Уладзімір Траццякоў.** – *Галоўная задача сёння – павысіць паказчыкі. Пакуль жа аб'ёмы выручкі знізіліся і не адпавядаюць чаканням.*

Навіны аб тым, што наваполацкі НПЗ адчувае матэрыяльныя цяжкасці, прыходзілі і раней. Нядаўна на аўкцыён была выстаўлена рэзідэнцыя «Нафтана» пад Масквой. Аб'екты ў Наваполацку, якія знаходзіліся на балансе прадпрыемства, перайшлі да горада.

Таксама з-за абмежаванняў паставак нафты з Расіі рост заробкаў быў замарожаны.

– *«Трынаццаты заробак» звычайна выдаюць на пачатку года,* – сказаў «Народнай Волі» старшыня Беларускага незалежнага прафсаюза на ААТ «Нафтан» **Генадзь Варона.** – *Але за 2015 год выплацілі яго толькі нядаўна, у снежні. І сума была невысокай – чвэрць ад таго, што павінна быць. Паставак з Расіі недастаткова – прадпрыемства цалкам не загружана, таму і ўзнікаюць фінансавыя праблемы.*

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

«КРУГЛЫЙ СТОЛ»

# Цены на лекарства поддаются лечению?

## Участники «круглого стола»:

**Вячеслав ШИЛО,** заместитель министра здравоохранения;

**Вячеслав ГНИТИЙ**, генеральный директор государственной аптечной сети РУП «Белфармация»;

**Людмила РЕУТСКАЯ**, начальник управления фармацевтической инспекции и организации лекарственного обеспечения Минздрава;

**Дмитрий КАЛИСТРАТОВ,** начальник отдела предпринимательской деятельности, ценообразования и управления госимуществом Минздрава.

Представители субъектов хозяйствования государственной и негосударственной форм собственности, ассоциаций и представительств зарубежных производителей в Республике Беларусь – члены рабочей группы Минздрава по осуществлению комплексного анализа фармацевтического рынка страны.




## ...в 2, а то и в 3 раза

**«Народная Воля»: – Тема «круглого стола» была сформулирована как «Ситуация с ценообразованием на лекарственные средства в Республике Беларусь», поэтому вопрос такой: как формируются цены на импортные препараты? Насколько, например, верна информация о том, что в аптеках Польши максимальная торговая надбавка на лекарства составляет 16 процентов, в Литве – 14 процентов? В Беларуси, как известно, согласно указу президента №366 от 11.08.2005, она может доходить до 30 процентов.**

**Вячеслав Гнитий:** – Лекарственные средства и изделия медицинского назначения относятся к группе потребительских товаров, по отношению к которым применяются жесткие меры государственного регулирования и для определения порядка формирования цен, и для установления предельных размеров оптовых и торговых надбавок.

**Людмила Реутская:** – В соответствии с белорусским законодательством поставки на рынок страны лекарственных средств могут быть только от производителей либо их официальных дистрибьюторов. В этой цепочке посредников нет.

**Дмитрий Калистратов:** – Итоговая цена препарата в аптеке складывается из фактической цены производителя, оптовой надбавки и розничной надбавки к фактической цене изготовителя.

Оптовая надбавка покрывает расходы на содержание оптового звена (аптечных складов). Согласно указу президента, оптовая надбавка ограничена в зависимости от цены препарата. Розничная торговая надбавка покрывает расходы, связанные с содержанием аптек, доставкой, хранением лекарственных средств. И она тоже имеет ограничения в зависимости от стоимости препарата. Максимальную 30-процентную розничную надбавку можно применять только к дешевым лекарствам, которые отпускаются заводом-изготовителем по цене до половины базовой величины.

**Иван Козырев, директор ЗАО «Унифарм»:** – Согласно указу, аптеки имеют право на торговую наценку от 1 до 30 процентов. Я – директор не только оптового, но и розничного предприятия. Средняя наценка в сети наших аптек – 14,8 процента. У наших конкурентов приблизительно такие же цифры.

Наживаются ли поставщики на белорусах? Я вам отвечу: нет! Сегодня уровень рентабельности оптового звена составляет от 0,1 до 2 процентов. Компании экономят на всем. В розничной сети рентабельность колеблется в пределах 0,5–2,5 процента.

**Д.Калистратов:** – Что касается государственной сети «Белфармация», то, когда с 1 июля этого года, согласно указу президента, привязавшего оптовые и торговые надбавки к базовой величине вместо доллара, предприятие снизило торговые и оптовые надбавки, рентабельность «Белфармации» снизилась на 0,6 процента.

**В.Гнитий:** – Предприятиями РУП «Белфармация» в постоянном режиме проводится работа по сдерживанию роста цен на лекарственные средства. Нынче разработан перечень предельно допустимых розничных цен, которые включают более 1000 наименований лекарственных средств. Это позволяет обеспечить единообразие цен в государственных и коммерческих аптеках страны. Данная работа продолжается, и перечень будет увеличен. Тем самым мы достигнем того, что цены в аптеках Беларуси не будут существенно различаться.

В практику вошло проведение переговоров с зарубежными поставщиками и зарубежными производителями на предмет снижения цен. Прежде чем вести переговоры, анализируем, по каким ценам проводились закупки лекарственных средств в сопредельных странах – Российской Федерации, Украине, Польше, странах Балтии. Эта работа приносит результаты. Только в этом году провели переговоры с компанией «Санофи» по снижению цены на «Плавикс» – достаточно известное в народе средство. Цена снижена почти в 5 раз! И сегодня у нас «Плавикс» дешевле, чем в России. В Российской Федерации цена декларируется в пределах 22 евро, мы покупаем «Плавикс» по 11 евро. Успешно провели переговоры со словенской компанией KRKA, и по 8 наименованиям своих лекарств они снизили цены.

Говоря о ценах, нельзя не сказать о нашей работе по заключению прямых контрактов с зарубежными производителями и исключения необоснованного посредничества. Сегодня «Белфармацией» заключено 92 внешнеторговых контракта с заводами-производителями. Заключая такой контракт, «Белфармация» получает выгоду в виде определенных бонусов, которые направляет не на хозяйственную деятельность, а в первую очередь на снижение цены.

**Вячеслав Шило:** – Что касается тех позиций, по которым цена у нас и в соседних странах разнится, – в этом направлении проделана большая работа. И по многим позициям мы добились снижения в 2, а то и в 3 раза по цене.

## Почему в Польше дешевле?

**– Спасибо за то, что вы пояснили, как много делается для того, чтобы цены на импортные препараты на нашем рынке сравнялись с ценами, которые мы видим в аптеках Польши, России, Украины. Но…**

**Буквально накануне нашего «круглого стола» мне довелось побывать в Польше. Для своей родственницы я покупала там три препарата: «Предуктал mr», «Трибукс», «Дюфалак». Разница в цене шокировала. Упаковка «Предуктала» (60 табл. по 30 мг) у нас стоит около 20 долларов, в Польше – 8,9. Упаковка «Трибукса» у нас 11 долларов, в Польше почти в 4 раза дешевле – 3,25. 500 миллилитров «Дюфалака» – 12,7 доллара и 8,7 соответственно.**

Так все же чем обусловлена высокая стоимость отдельных препаратов в Беларуси по отношению к таким же в Польше, России, Украине?

**И.Козырев:** – Я помню данные по ценам пятилетней давности. В нашей стране тогда цены на лекарства были на 10–15 процентов ниже, чем в сопредельных государствах и в Казахстане. Почему это было? Потому что уже тогда действовал президентский указ №366, который регулировал цены на лекарства и который сыграл огромную роль в формировании цен на лекарственные средства на нашем рынке и не только. По нашему пути потом пошли Россия, Казахстан и Украина.

То, что сейчас существует такая разница в цене на некоторые импортные средства у нас и в сопредельных странах, – правда. Откуда эта правда получилась?

Давайте вспомним, что произошло в Российской Федерации 2–3 года назад. Доллар тогда стоил 23–26 рублей, а сегодня – 64 рубля. Но именно 2–3 года назад Российская Федерация сделала умный шаг – зарегистрировала цены на импортные лекарства. Регистрация предусматривала неизменность цены в течение года ни под каким предлогом. Потом сложно было менять цены, надо было иметь для этого веское обоснование. Поэтому сегодня цены в России ниже, чем у нас.

**– А чем вы объясните значительную разницу в цифрах на ценниках в аптеках Беларуси и Польши?**

**И.Козырев:** – Потому что наша страна пока не приняла никакого решения по поводу параллельного импорта. Что это такое?

Параллельный импорт – это когда фирма-поставщик на льготных условиях покупает продукцию и потом отправляет товар в любую страну по ценам ниже цены производителя. На параллельном импорте очень здорово выигрывает Польша, выигрывает Грузия. Но при этом есть опасность фальсификаций. Под понятием «параллельный импорт» фальсификат может быть произведен в Молдове или еще где-то. Закупая такой препарат, поставщик может даже об этом и не подозревать.

**Олег Стома, генеральный директор СЗАО «Медвакс»:** – Почему есть разбежка в ценах и почему она, к сожалению, неизбежна? Все импортеры завозят и растаможивают лекарственные средства по курсу Нацбанка. Завезла компания-поставщик, условно говоря, препарат стоимостью 10 долларов или 20 рублей, и эта цена остается до тех пор, пока ты этот лекарственный препарат продаешь – месяц, полгода. За это время может произойти колебание курса – девальвация или, наоборот, укрепление рубля, что мы сейчас наблюдаем. В соответствии с законодательством цену можно изменять, в том числе уценять лекарства. Но субъекты не могут это сделать фактически в связи с обязательствами по расчетам с поставщиками. Поэтому и идет разбежка в ценах в аптеках страны. Мы пытаемся сглаживать цены за счет розничных наценок, но они не такие высокие. Причем чем дороже лекарственный препарат, тем меньше торговая надбавка. Есть лекарства, которые стоят 100 долларов, это высокотехнологичные средства, которые сложно импортозаместить. Надбавка на эти препараты – 1 процент. А нам надо рассчитаться с компанией-изготовителем, заплатить налоги, дать сотрудникам зарплату, убрать в аптеке, чтобы было чисто, вывеску повесить и т.д.

Никто тут не прибедняется, что мы нищие. Задача любой коммерческой организации – пытаться получать выгоду. Но в то же время не наживаться на людях!

**– Какая прибыль в прошлом году была у вашего предприятия?**

**О.Стома:** – Чистая прибыль после уплаты налогов в целом по предприятию за 2015 год составила порядка 4 процентов.

**– А сколько это в деньгах?**

**О.Стома:** – Это коммерческая тайна… Поверьте, Минздрав очень жестко контролирует цены. Предельные отпускные цены, о которых говорил директор «Белфармации», публикуются каждую неделю, и мы сверяемся, нет ли у нас превышения.

**– А в Польше не надо содержать штаты, платить налоги, убирать аптеки и т.д.?**

**В.Шило:** – Кто из поставщиков ответит по поводу разницы цен в Беларуси и в Польше?

**Валентин Петров, исполнительный директор Ассоциации международных фармацевтических производителей:** – Те цены, которые назвала представитель «Народной Воли», были в одной определенной аптеке, которую она посетила. В другой они могли быть иные, в 2 раза выше. Возможно, аптека продавала излишки либо истекал срок годности препарата.

**– А вот и нет! Прежде чем купить лекарства, я обошла несколько аптек Белостока, и везде цены были практически на одном уровне и существенно ниже наших.**

**В.Петров:** – Возможно, есть другой фактор, который повлиял на цены в Польше. Возможно, этот продукт находился в так называемой программе лекарственного возмещения, когда фирма, участвуя в этой программе, получает очень большой рынок сбыта, фактически на всю страну идет поставка. Конечно, в этой ситуации цена будет совсем иная. Любую диспропорцию в ценах необходимо изучать.

И я не совсем согласен с Иваном Алексеевичем Козыревым, который говорил, что параллельный импорт привел к такому снижению цен. Параллельный импорт в странах Евросоюза возможен только внутри Евросоюза, где вопросы качества и безопасности препарата тщательно мониторируются. Если переносить их опыт на нашу территорию – здесь будет совсем другое, потому что у нас нет культуры качества параллельного импорта. И если взять Грузию, опыт закавказских стран, то у них как раз сейчас большие проблемы с параллельным импортом. Завозится много суррогатной, некачественной продукции, фактически они создают риск для пациентов. Поэтому, возможно, лучше чуть-чуть переплатить, чем рисковать здоровьем.

## «Идет борьба за выживание»

**– Мы иногда так переплачиваем, что в народе уже гуляет поговорка: «Дороже здоровья только лекарства». Скажите, пожалуйста, а что нам мешает взять и, как в России, зафиксировать цену на лекарство и не менять ее хотя бы год?**

**В.Шило:** – Мы это и делаем. Ежегодно Министерство здравоохранения подписывает меморандум с зарубежными компаниями и их представителями о недопущении роста розничных цен на лекарственные средства. На протяжении этого года цены не выросли, а контрактные цены даже снизились!

**И.Козырев:** – Возвращаясь, например, к препарату «Плавикс». В сентябре в вашей газете была указана цена на этот препарат в Беларуси – 104 рубля. Сейчас «Плавикс» стоит 31–33 рубля, в Киеве – 51, в Москве – 58. Такое снижение цены – это работа Министерства здравоохранения.

«Предуктал», который вы приводите как пример высокой цены в Беларуси, – это препарат французской компании «Сервье». «Нолипрел», «Престариум» тоже производит «Сервье». Минздрав должен решить с ними вопрос. Но я понимаю, почему они держат цены. В 2014 году «Сервье» имело оборот на нашем рынке 17 миллионов долларов, а в прошлом году – 7 миллионов. В этом году и семи не будет, а коллектив, который здесь держит компания, достаточно большой, его нужно содержать, нужно продвигать продукцию. Идет борьба на выживание. Программа импортозамещения позволила наладить выпуск аналогов, например, появился белорусский аналог «Предуктала» – «Триметазидин». Другой препарат «Сервье» – «Кораксан». Минздрав объявил тендер на закупку аналога этого препарата. И сейчас в нашу страну завозят словенский препарат «Бравадин». В «Народной Воле» указывалось, что «Кораксан» стоит в Беларуси 73 рубля. Сейчас у белорусов есть возможность покупать более дешевый, но не менее эффективный «Бравадин», его цена – 27,8 рубля. Выбор есть.

В Польше «Сервье» вольно-невольно должна была снизить цены на свою продукцию до уровня стран Евросоюза. А в Беларуси можно и поиздеваться.

**В.Петров:** – Это еще говорит и о том, что компания «Сервье» перестала рассматривать Беларусь как важный рынок в своей производственной программе. У них акцент переместился на другие страны. Это плохо. Но тем не менее Министерство здравоохранения нашло, чем заместить данные препараты.

**– Но хотелось бы, чтобы и оригинальные препараты «Сервье» остались на рынке, многие белорусы их покупают. И хотелось, чтобы цены на них не были в 2–3 выше, чем в Польше или России**.

**В.Петров:** – Безусловно. Но для этого надо создавать соответствующие условия, чтобы компания опять обратилась к Беларуси как к важному стратегическому рынку для своего развития. И я думаю, что это произойдет.

**В.Шило:** – Хотелось бы отметить, что и с этой, и с другими компаниями у нас идет работа на постоянной основе, для того чтобы проводить локализацию производств на наших заводах. И многие компании идут на это.

**– Некоторые наши читатели, пытаясь найти ответ на вопрос, почему лекарства у нас дороже, чем в соседних странах, высказывают такое предположение: мол, существует некий сговор чиновников с поставщиками, и они искусственно завышают цены на импортные лекарства, чтобы белорусы покупали отечественные аналоги…**

**Юрий Трипутень, заместитель директора СЗАО «Белфарм»:** – Если все министерства и ведомства с точки зрения соблюдения законодательства Республики Беларусь будут работать так, как Минздрав, будет золотая страна. Вы заходите в аптеки – и гарантированно покупаете качественный товар.

**В.Шило:** – Маркетинговый отдел РУП «Белфармация» отслеживает все прайсовые поставки в Республику Беларусь. И если мы видим, что по прайс-листу вводится лекарство дороже, то, прежде чем принять решение о формировании новой цены, мы проводим переговоры с поставщиком и спрашиваем, с чем связан рост цены. Рынок стал меньше? Производитель закупил дорогую субстанцию? Изменилась упаковка, и это потребовало дополнительных расходов? Увеличились накладные расходы? Никогда не происходит необоснованного повышения цены на лекарства.

## Аптека обязана обеспечить…

**– Почему часто возникают перебои с импортными лекарствами? Например, препарат от астмы – гормон «Будесонид» – дефицитный товар уже на протяжении года, постоянно приходится искать его по всем аптекам Минска. Недавно в «Народной Воле» была публикация о том, что из аптек пропал гель для детей «Дентинокс» производства Германии. Читатели жаловались на отсутствие в аптеках капель в нос «Пиносол» и капель для поднятия иммунитета «Элькар», таблеток «Роаккутан», антибиотика «Авелокс».**

**В.Гнитий:** – Не могу сказать, что есть перебои. Есть разный покупательский спрос, разная посещаемость. В аптеках, где проходимость ниже, препарат будет на полках дольше. Во всех аптеках нашей страны – и в государственных, и в коммерческих – существует такая услуга, как отсроченное исполнение рецепта. Если в аптеке нужного вам лекарства в данный момент нет, то аптека обязана обеспечить вас этим лекарством в течение 5 дней. Кроме того, лекарственное средство можно зарезервировать по телефону. Практически на всех предприятиях РУП «Белфармация» покупателям предоставляются скидки на отечественные и импортные лекарственные средства.

Бывают такие моменты, когда лекарственное средство того или иного зарубежного производителя попадает на этап перерегистрации. Компания, которая заинтересована в том, чтобы обеспечить на время перерегистрации бесперебойное наличие своей продукции в аптеках, накануне завозит большее количество препаратов на рынок.

**Л.Реутская:** – Кроме того, компания может за полгода подать документы на перерегистрацию и все сделать вовремя. Перерегистрация для ответственной компании не может стать причиной того, что их товар вдруг стал дефицитным.

## Терапия на любой кошелек

**– Сколько в год тратят на лекарства белорусы?**

**Наталья Пригун, глава представительства компании «Гедеон Рихтер»:** – Около 100 долларов. В России – 150, в Казахстане – 110.

**– Это хорошо или плохо?**

**Н.Пригун:** – В развитых странах тратится в разы больше, там расходы на покупку лекарств и медикаментов составляют 250–500 и даже 700 евро в год на человека. Там население заботится и о своем здоровье, и о профилактике.

**В.Шило:** – Около 100 долларов (а в разные годы эта цифра разная, колеблется от 86 от 107 долларов) – это относительный показатель, потому что он не учитывает возмещение затрат, которые идут за счет страховок, стоимость лечения на стационарном этапе, а также бесплатное обеспечение лекарственными средствами льготной категории граждан.

Кроме того, снижение затрат у населения на лекарства происходит потому, что отечественные препараты, которые все чаще покупают белорусы, стоят недорого. Если бы покупали оригинальные, то оставляли бы в аптеках значительно большие суммы. И многие страны, нацеливаясь на снижение нагрузки на население по тратам на лекарства, идут по пути импортозамещения, используя дженерические формы препаратов. Это общемировая практика. И мы видим по тенденции на нашем рынке, что те оригинальные препараты, которые стоили очень дорого 5–6 лет назад, при появлении их дженериков на рынке снижаются в цене, не говоря о том, что их аналоги стоят дешевле.

**О.Стома:** – Даже такие богатые страны, как Канада, США, переходят на производство и закупку дженериков. Никакая страховая медицина не справляется с тем, чтобы оплачивать оригинальные, высокотехнологичные препараты. В Канаде, например, порядка 70 процентов лекарств на рынке – дженерики.

**В.Шило:** – В заключение хотел бы сказать, что журналисты и все жители страны могут быть уверены: и Министерство здравоохранения, и поставщики нацелены на то, чтобы на рынке были адекватные цены на лекарственные средства.

На сегодняшний день мы проанализировали и выяснили: осталось порядка двух десятков позиций, по которым необходимо завершить работу по урегулированию цен у нас и на сопредельных рынках. А по остальным препаратам – у нас либо такие же цены, как и в соседних государствах, либо даже ниже. А учитывая развитие отечественной фармотрасли, качество и цену лекарств, которые производят наши заводы, мы можем констатировать, что данная ситуация позволяет сегодня адекватно и максимально охватывать лекарственным обеспечением все слои населения. Как сказала мой коллега, профессор, доктор медицинских наук: «Я подберу любому гражданину адекватную терапию по любой ценовой позиции. Она может разниться в разы. Одному пациенту с одной и той же схемой лечения она будет стоить 20 рублей, другому – 40, третьему – 60. Но по эффективности она будет одинаковой». А если эффективность одинаковая, то зачем платить больше?».

**Мария ЭЙСМОНТ.**

